 





# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 35 (1122) ГОД XXII БЕЛАСТОК 28 ЖНІЎНЯ 1977 г. ЦАНА 60 гр.




Валянцін Кананюк жыве на хутары Ваські. З яго добры гаспадар. Асабліва многа гадуе ён свіней і кароў. Аднак сын Вальдэк не хоча аставацца на гаспадарцы.

## Таварыства прыяцеляў Бельска



Старшыня Таварыства прыяцеляў Бельска інж. Тадэуш Вільгат.

У Бельску, які славіцца не толькі сваёй 900-гадовай гісторыяй, але і цяперашнім інтэнсіўным развіццём, такая грамадская арганізацыя як **Таварыства прыяцеляў Бельска Падляшскага** мае спрыяючую атмасферу і шырокае поле да дзеяння. Гэта пацвердзілася ўжо на першым, арганізацыйным з'ездзе таварыства, які адбыўся ў красавіку 1975 года. Прыняло ў ім удзел каля 160 асоб — амаль усе, хто толькі быў запроша-

Працяг на стар.4

### З рэпарцёрскіх запісак

## ЖЫЦЦЁ Ў ПУШЧЫ

Усё пачалося ад таго, што рашылі мы скараціць сабе дарогу і ад керамічнай фабрыкі ў Старым Ляўкове накіраваліся праз лес у вёску Ваські.

*„Хто дарогу прастуе, той дома не начуе“*, — кажуць вопытныя людзі. Мы апынуліся ў дрымучым лесе на ўскраіне Белавежскай пушчы. Паабапал вузенькай дарогі, з абодвух бакоў абкапанай глыбокімі канавамі, стаяла густая зялёная сцяна дрэў, кустоў і рознага зелля. Здавалася нам, што ўжо канца не будзе гэтаму лесу, а ехаць можна было толькі ў адным напрамку — наперад, бо на вузенькай дарозе не хапала месца, каб павярнуць назад.

* ✲ *

Шафёр падбадзёрваў мяне, а я шафёра, але абодвух пачала ўжо палохаць думка, што мы проста заблудзіліся і наўрад ці зможам да вечара выбрацца з гэтага лесу.

Дарога станавілася ўсё болей гразкай. Машына равела, калёсы буксавалі.

Раптам раздаўся трэск ломанага галля, і сярод зялёных елак мы ўбачылі рыжаваты лоб вялікага зубра, а за ім цэлую яго ватагу. Шафёр інстынктоўна спыніў машыну, і некалькі хвілін мы і зубры моўчкі мерылі адно другога позіркамі.

— Давай на газ! — шапнуў я свайму спадарожніку.

„Ф'ят“ ірвануў і з разгону зарыўся носам у глыбокай прорве на дарозе. Калісьці, відаць, быў у гэтым месцы драўляны мосцік, але паводка змыла яго, бо побач засталіся пакінутыя бярвенні і дошкі, а глыбакаваты ручаёк прабіў сабе шлях упоперак дарогі.

* ✲ *

Заселі мы там, як камень у балоце. Прыйшлося ісці шукаць дапамогі. Пасля паўгадзіннага маршу я ўрэшце выбраўся з лесу і з аднаго боку дарогі ўбачыў жытнёвае і бульбянае поле, а насупраць, пад самым лесам, стаяў адзінокі, з выгляду яшчэ зусім новы, мураваны асабняк, дбайна агароджаны плотам, за якім расла капуста, агуркі, памідоры і ўсялякая іншая гародніна.

Найперш аднак зацікавіў мяне бульбянік. Ён цэлы быў упрыгожаны доўгімі стужкамі з мяшкоў ад штучнага ўгнаення, якія безупынна шамацелі ў парывах ветру.

„Што за дзіўны гаспадар тут жыве“, — падумаў я, і ў гэты самы момант штосьці зарохкала: метраў у 5 ад мяне праімчалася кагала паласатых дзікіх кабаноў. Я астаўбянеў ад перапалоху, а свінні праскочылі цераз дарогу і мігам схаваліся ў лясным гушчары. Я скочыў у бок адзінокай сялібы, пад яе дахам шукаю ратунку. Дабег да дзвярэй, рвануў за клямку і... надарэмна! Дом быў пусты.

Што за дзіўнае месца!

* ✲ *

Я чым хутчэй выскачыў з панадворка гэтай пустой сялібы і паімчаўся першай-лепшай дарогай, якая завяла мяне на панадворак **Валянціна Кананюка**, які з жонкаю Ольгай, з дачкою Тамарай і з сынамі Янкам і Вальдкам жыве на хутары за вёскай Ваські. Дачка Тамара вучыцца ў эканамічным тэхнікуме ў Беластоку, сын Янка ў гэтым годзе выдатна закончыў пачатковую школу і паступіў у механічны тэхнікум. Наймалодшы з іх Вальдэмар

(Працяг на стар. 4)



Усім сялянам, якія гаспадараць на ўскраіне Белавежскай пушчы, моцна надакучылі дзікія свінні. Каб іх адпалохаць ад бульбянікаў, гаспадары ўпрыгожваюць поле вось такім спосабам.




## АНАТОЛЬ ІВЕРС

Вясною г.г. знаёмілі мы чытачоў з Анатолем Іверсам і яго „беластоцкімі“ вершамі. Неўзабаве паэт пабываў і ў нашай рэдакцыі. А зусім нядаўна ў „Літаратуры і мастацтве“ з прыемнасцю прачыталі мы новыя вершы А. Іверса. Перадрукоўваем іх разам з аўтарскай даведкай.

*Нядаўна мне давялося пабыць у гасцях у Польскай Народнай Рэспубліцы. Горад Плоцк (над Віслай), дзе калісьці служыў у польскай кавалерыі, я наведаў праз 43 гады, а горад Беласток, дзе ў 1940 годзе мяне прымалі ў Саюз пісьменнікаў БССР, — праз 37 гадоў. Плоцка я амаль не пазнаў. Беласток стаў для мяне таксама новым горадам.*

*У Плоцку я пазнаёміўся з выдатным музыкантам Францішкам Сувалам, які цудоўна іграў на акардэоне савецкія песні.*

*Аб знаходжанні ў ПНР засталіся ў мяне цёплыя ўспаміны.*

**Аўтар**

### ЗАЦЕСНА НАРВЕ Ў БЕРАГАХ

Зацесна Нарве ў берагах —
Вясною на папасе.
Па лазняках і па лугах
Шырока разлілася.

Шукае новыя шляхі
Ад самае заранкі,
То круціць вір каля альхі,
Дзе зімавалі ракі.

Яшчэ трава не парасла,
Ледзь толькі выглядае,
А над усім шуміць вясна
Такая маладая.

Ах, колькі качак на вадзе
І кнігаўкі над імі!
Гудзе над Нарваю, гудзе
Вясна з цудоўным імем.

Бывай, рака! Змагу — прыйду
Ў лугоў прастор бясконцы,
Дзе сонца кідае ў ваду
Гарачыя чырвонцы.

### У ПЛОЦКУ

Блішчыць крыштальная раса,
Зялёныя прысады.
За паваротам — горад-сад,
На лавачцы прысяду.

Я не злую за тую быль —
Калючыя сустрэчы.
Я проста цяжкасці забыў:
Час раны добра лечыць.

Што перажыў, перацярпеў —
Падтоптана пад ногі.
Затое радасна цяпер
Не толькі мне, а многім.

...Прабегшы пальцамі абсяг,
„Бярозку“, як бывала,
Пераліваe на басах
Мой новы друг Сувала.

Да „Падмаскоўных вечароў“
Даходзіць ён нарэшце.
Бярэ за сэрца — будзь здароў! —
Таксама як і ў Брэсце.

Бо для душы няма граніц —
Яна заўжды ў бязмежжы.
І дружба выйшла з камяніц
Паветрам дыхаць свежым.

 

# ШТО НОВАГА?

## ТРАГЕДЫЯ ВОСТРАВА АШЭН

Ужо к пачатку гэтага стагоддзя Ціхі акіян быў падзелены на кавалкі, як пірог, паміж буйнымі каланіяльнымі дзяржавамі. Яго карта была складаным узорам з дзіўных геаметрычных фігур — частка іх належала Злучаным Штатам, частка — французам, аўстралійцам, новазеландцам, англічанам. Адны з гэтых каланіяльных уладанняў дабіліся незалежнасці, другія яшчэ змагаюцца за яе. Аднак у некаторых раёнах да гэтага часу захаваліся горшыя перажыткі каланіялізму дзевятнаццатага стагоддзя. Прыкладам могуць служыць кіруемыя Англіяй астравы Гілберта.

Адзін з групы астравоў Гілберта — Ашэн. Калі ў канцы мінулага стагоддзя сюды прыбылі англічане на ваенных караблях, гэта было прыгожае месца, дзе раслі пальмы, раскінуліся маленькія рыбацкія вёсачкі, было шмат крыніц прэснай вады. Неўзабаве пасля гэтага, у 1900 годзе, новазеландскі купец Альберт Эліс выявіў, што востраў амаль цалкам складаецца з фасфатаў. Лёс Ашэна быў вырашаны. Сюды рушыла англійская фірма „Брытыш фосфейт компані". Вялікія машыны кампаніі пачалі літаральна паядаць востраў.

Барнабаны, мясцовыя жыхары, з усіх сіл супраціўляліся. Людзі прывязвалі сябе да пальмаў, каб перашкодзіць машынам знішчаць іх. Але сілы былі не роўныя. Брытанскі камісар вострава накіраваў у Лондан пратэст супраць таго, што робіць на востраве „Брытыш фосфейт компані", але яго тут жа знялі. Наступны камісар таксама паспрабаваў выступіць супраць самавольства кампаніі. Яму прыгразілі, што яго напаткае лёс папярэдніка.

Калі ж брытанскім эмісарам на Ашэне стаў сэр Артур Грымбл, „Фосфейт компані" практычна стала паўнаўладнай гаспадыняй вострава. Так было да другой сусветнай вайны. У час вайны Ашэн захапілі японцы, якія знішчылі трэць насельніцтва. А пасля вайны ў 1947 годзе англійскі ўрад выслаў барнабанаў, якія засталіся, за тысячу міль на востраў Рамбі. Больш таго, ім прыйшлося купіць востраў на свае грошы. Калі ж перасяленцы прыбылі туды, іх размясцілі ў непрыгодных для жылля палатках. Мізэрную дапамогу, якую выдзеліў ім урад, барнабаны расцанілі як „міласціну".

Ідуць гады, і „Брытыш фосфейт компані" працягвае разбураць востраў, зарабляючы на гэтым мільёны. Гіганцкія экскаватары грызуць і пажыраюць усё, што засталося ад зямлі. Пяцьдзесят гадоў барнабаны шлюць петыцыі ў Лондан, але ўсё безвынікова. Калі ў 1947 годзе іх насільна перасялілі на Рамбі, яны падалі ў суд. Толькі ў мінулым годзе справа, нарэшце, дайшла да Вярхоўнага суда Англіі. Хоць суддзя і прызнаў англійскі ўрад вінаватым, адзначыўшы, што маральна барнабаны маюць рацыю, нічога ў лёсе абяздоленага народа да гэтага часу не змянілася.

**Джэймс Олдрыдж,**
англійскі пісьменнік

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У "НІВЕ"

**Што з чытальніцкім конкурсам? ● Заметкі аб сучаснай беларускай літаратуры ● Літаратурная старонка ● Белавежскі музей ● Весткі з Чаромхі, Нараўкі, Махнатага, Нарвы, Лазняў, Галадоў, Супраслі, Бельска, Леўкаў, Крывяціч, Слабодкі ● Вопратка для школьнікаў ● Калі сніцца павук ● Задачнік прафесара Кузачкі ● У доктара Знахарука ● Песня „Zakochany bałwan".**



## З ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАЙ ФАЛЬКЛАРЫСТЫКІ

У палове бягучага года ў мінскім выдавецтве „Навука і тэхніка" выйшла ў свет цікавая кніжка „Развіццё беларускай савецкай фальклярыстыкі", аўтарам якой з'яўляецца Анатоль Фядосік.

Ва ўводзінах да сваёй працы аўтар сцвярджае, што аб багатай духоўнай культуры беларусаў сведчаць ужо публікацыі беларускага фальклору дакастрычніцкага перыяду. У XIX ст. цікавыя для навукі зборнікі беларускай народнай вусна-паэтычнай творчасці выдалі А. Рыпінскі, Я. Тышкевіч, П. Шпілеўскі, М. Дзмітрыеў, П. Бяссонаў, І. Насовіч, М. Доўнар-Запольскі, М. Нікіфароўскі, З. Радчанка, А. Дэмбавецкі і інш. Аднак асаблівую каштоўнасць маюць фальклорныя творы, апублікаваныя ў зборніках П. Шэйна, Е. Раманава, М. Федароўскага, У. Дабравольскага і А. Сержпутоўскага.

У дарэвалюцыйны час паявіліся таксама нешматлікія тэарэтычныя працы, а сярод іх фундаментальная праца Я. Карскага „Беларусы".

### БЕЛАРУСКАЯ ФАЛЬКЛАРЫСТЫКА Ў 1917-1945 ГАДЫ

Развіццю беларускай фальклярыстыкі спрыяла разгорнутае культурнае будаўніцтва ў рэспубліцы. У 1921 годзе быў адкрыты Беларускі дзяржаўны універсітэт, у 1922 годзе — Інстытут беларускай культуры, на базе якога ў 1929 г. была створана Акадэмія навук БССР. У акадэміі працавала шмат этнографаў-фальклярыстаў. У 20-я гады працягвалі сваю працу вядомыя фальклярысты і этнографы А. Сержпутоўскі, А. Шлюбскі, І. Сераў і інш.

Вялікую ролю ў зборы вусна-паэтычных твораў адыгралі краязнаўчыя арганізацыі, у выніку вялікай працы якіх у Інстытуце беларускай культуры быў створаны фальклорна-этнаграфічны архіў з запісамі дзесяткаў тысяч вусна-паэтычных твораў.

Аб развіцці беларускай фальклярыстыкі клапаціўся народны паэт БССР Я. Колас, які ў 1935 годзе быў прызначаны старшынёй фальклорнай камісіі, арганізаванай пры Прэзідыуме АН БССР. Працай гэтай кіраваў ён і пазней, калі быў віцэ-прэзідэнтам АН БССР.

Сектар этнаграфіі і фальклору Інстытута гісторыі БССР працаваў над класіфікацыяй і сістэматызацыяй вусна-паэтычных матэрыялаў. У 1940 г. выйшаў з друку першы том збору „Песні беларускага народа" (складальнік М. Грынблат). Вайна спыніла друк наступных двух тамоў. Разам з рукапісамі гэтых тамоў загінулі тысячы жамчужын беларускай народнай творчасці.

### БЕЛАРУСКАЯ ФАЛЬКЛАРЫСТЫКА ПАСЛЯВАЕННАГА ЧАСУ

Пасля Вялікай Айчыннай вайны вялася работа па аднаўленню фальклорнага архіву, знішчанага гітлераўцамі ў час акупацыі Беларусі.

Значны ўклад у вывучэнне беларускай народнай творчасці ўнеслі беларускія кампазітары, у першую чаргу М. Чуркін, які яшчэ ў дакастрычніцкі перыяд рабіў запісы да беларускага песеннага фальклору.

Велізарны ўклад унёс у беларускую фальклярыстыку народны артыст СССР Рыгор Шырма. Яшчэ пад уладай буржуазнай Польшчы, у 1919 годзе ім быў выдадзены зборнік „Беларускія народныя песні". Падсумаваннем амаль пяцідзесяцігадовай яго дзейнасці ў галіне збірання і апрацоўкі беларускага фальклору з'яўляецца выхад з друку ў 1959-1976 г.г. капітальнага чатырохтомнага збору Р. Шырмы „Беларускія народныя песні".

Плённа таксама працуе дзеля развіцця беларускай фальклярыстыкі народны артыст СССР Генадзь Цітовіч. З'яўляецца ён складальнікам „Анталогіі беларускай народнай песні", выдадзенай у 1968 г.

З утварэннем у 1957 г. у складзе Акадэміі навук БССР Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору з сектарам фальклору ў ім з'явіўся навуковы цэнтр, які ўзначальвае ўсю даследчую работу ў галіне беларускай народнай творчасці і каардынуе дзейнасць фальклярыстаў рэспублікі. Амаль 12 год узначальваў Інстытут акадэмік АН БССР П. Глебка, па ініцыятыве якога была распачата падрыхтоўка шматтомнага выдання беларускага фальклору. У 1970 годзе Інстытут прыступіў да выдання трыццацітомнага зводу лепшых твораў асноўных жанраў традыцыйнай і сучаснай вусна-паэтычнай творчасці.

(Працяг на стар. 4)

## БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ — 77




**Анна Стахвіюк з Трасцянкі. На цэнтральным аглядзе заняла другое месца ў групе салістаў у катэгорыі фальклорнай песні.**
**Фота К. Свідэрскага.**

## Наша галерэя



П. Сергіевіч. „Абед трактарыста", 1957.

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Sobota — 27.VIII.** 15.00 Pr. dnia. 15.05 Lalki w rękach mistrzów. 15.35 Radzimy rolnikom. 15.45 Obiektyw. 16.05 Dziennik. 16.15 Osiągnięcia nauki polskiej. 16.45 Czekajcie na listy — — fab. film radz. 18.15 Festiwalowe studio „Gama". 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Sopot 77: Koncert laureatów. 21.35 Dziennik. 22.00 Festiwal (c.d.). 23.00 Ballada o Lizzie Borden — fab. film. ameryk.

**Niedziela — 28.VIII.** 8.55 Pr. dnia. 9.00 Przygody Tomka — fab. film CSRS. 10.25 Antena. 10.50 U wybrzeży Australii — ang. film dok. 11.40 Dziennik. 11.50 Rolnicze rozmowy. 12.20 Tylko w niedzielę.

**Poniedziałek — 29.VIII.** 14.30 Pr. dnia. 14.35 Wakacyjne Kino Młodych. Martwa fala. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Historia w krajobraz wpisana. 17.00 Zwierzyniec. 17.35 Przygody pana Michała — serial TP. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr TV. Ladislav Smocek: Piknik. 22.05 Camerata. 22.25 Gdy zaczynaliśmy... „Szkoły". 22.45 Dziennik.

**Wtorek — 30.VIII.** 14.25 Pr. dnia. 14.30 Wakacyjne Kino Młodych. Godziny nadziei. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Studio Młodych. 17.15 Kółko i krzyżyk. 17.30 Magazyn motoryzacyjny. 17.50 Program dla kobiet. 18.25 Między nami jaskiniowcami — film anim. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Zaborcza miłość — fab. film bułg. 22.00 Świat i Polska. 22.35 Dziennik.

**Środa — 31.VIII.** 14.45 Pr. dnia. 14.50 Szkoła dla 35 milionów. 15.10 Wakacyjne Kino Młodych. Powrót dr von Kniprode. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Telewizyjny Klub Seniora. 17.00 Losowanie Małego Lotka. 17.15 Dla dzieci: Baśnie mojego dzieciństwa — spotkanie z Hanną Januszewską. 17.45 Henryk Czyż — pr. muz. 18.20 Gdy zaczynaliśmy... Gdańska Starówka. 18.40 Z przyrodą na Ty. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 „Opadły liście z drzew" — fab. film. polski. 22.20 Studio sport. 23.05 Dziennik.

**Czwartek — 1.IX.** 15.55 Pr. dnia. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Mój życiorys kończył się i zaczynał wiele razy — pr. publ. kult. 17.00 Ekran z Bratkiem. 18.00 Poligon. 18.20 Mistrzostwa świata w kolarstwie — 100 km drużynowo. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Czysta chirurgia — fab. film polski. 22.15 Pegaz. 23.00 Dziennik.

**Piątek — 2.IX.** 15.50 Pr. dnia. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Zapraszamy na stadiony. 17.00 Pora na Telesfora. 17.30 Poradnik zmotoryzowanego turysty. 17.40 Cienie zanikają w południe — serial fab. prod. radz. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Studio sport. 23.00 Dziennik. 23.15 Studio „Gama". 0.15 Kino Nocne.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 26 VIII** — 19.00 Nasza biografia. 20.30 Festiwal w Sopocie. 21.45 Uniwersjada — 77.

**Sobota 27 VIII** — 15.25 W świecie zwierząt. 17.15 Filmy anim. 17.45 Uniwersjada — 77. 18.55 Film fab. 20.30 Festiwal w Sopocie. 21.45 Uniwersjada — 77.

**Niedziela 28 VIII** — 11.40 Koncert. 12.30 Film fab. 14.40 Pr. muz. 15.30 Panorama międzynar. 16.00 Film anim. 17.15 Uniwersjada — 77. 17.45 Klub film. 18.55 Film fab. 20.30 Festiwal w Sopocie. 21.45 Uroczyste zakończenie Uniwersjady — 77.

## КІНО

**Białowieża** Ludzie godni szacunku — wł. 30—31.VIII.

**Bielsk Podlaski** Awanti — USA 30—31.VIII.

**Czeremcha** Brylanty pani Zuzy — pol. 30—31.VIII.

**Czyże** Krótkie wakacje — wł. Najlepsza w świecie — pol. 31.VIII—4.IX.

**Dubicze Cerkiewne** Dom — jug. Piosenka za koronę — czes. 31.VIII—4.IX.

**Hajnówka** Miłosna edukacja Walentego — fr. 29.VIII. Zanim nadejdzie dzień — pol. 30—31.VIII.

**Kleszczele** Gott mit uns — jug. 30—31.VIII.

**Michałowo** Ślady — wł. 30—31.VIII.

**Mielnik** Chinatown — USA 31.VIII.

**Milejczyce** Michaś przywołuje świat do porządku — RFN 30—31.VIII.

**Narew** Konik Garbusek — radz. Maria — szwedz. 31.VIII—4.IX.

**Narewka** Eliksir młodości — rum. Policjanci — USA 31.VIII—4.IX.

**Nurzec** Opętanie — pol. 30—31.VIII.

**Orla** Trędowata — pol. Inna — pol. 31.VIII—4.IX.

**Rajsk** Obecność — buł. Zindy chłopiec z bagien — mek. — 31.VIII—4.IX.

B.Z.Graf. Zam. 2019 B-4

## З народнай абраднасці
## Шкодніцкая магія




Любоўная магія звязана з найбольш інтымнай сферай чалавечага жыцця і ў сувязі з гэтым запісанне формул гэтага магічнага дзеяння напатыкаецца на вялікія цяжкасці. Так як і магічнае лячэнне, застаецца яна пакрытая вялікай таямніцай. Спасыланне на тэксты, запісаныя Пяткевічам, Федароўскім ці Дваракоўскім, і параўнанне з імі нашых запісаў паказвае на далей утрымоўваючуюся веру ў пажыццёвае трыванне „кахання“, выкліканага магічным дзеяннем. Бытуе яно, праўда, не з той сілай, як у час запісаў спамянутымі этнографамі, але ўсё ж такі бытуе. Магічнае дзеянне выконвалася пераважна сватам, сваткаю або маці. Яшчэ па сённяшні дзень існуе перакананне адносна дапасавання будучай сям'і. Перакананне тыпу — багаты павінен жаніцца з багатаю, прыгожы з прыгожаю і таму падобнае. Адсюль і бралася або склейванне сілай сям'і, або нішчэнне чыстага прыгожага кахання разбіццём закаханай пары. Усялякія адхіленні ад гэтага лозунга закладання сям'і прыпісваліся магічнай сіле. „Дэ вуон очы міеў такую браті. Просто штось його опутало. Напэвно пудробілі“, — часта можна было пачуць пры неадпаведным дапасаванні пары.

Найбольшае значэнне ў шкодніцкай любоўнай магіі аддавалася менструацыйнай крыві. Выкарыстанне яе запэўнівала цалкавітую паспяховасць. На Беласточчыне захавалася некалькі спосабаў, частка з якіх па сённяшні дзень бытуе ў практыцы. Найбольшую сілу мела кроў з першай менструацыі. І таму захоўвалася паплямленая ў час яе бялізна або збіралася кроў у нейкую пасудзіну і, калі дзяўчыне падабаўся хлапец, у час нейкай нагоды (прыкладна, гасціна) дадавалі яму гэтую кроў да гарэлкі. І ад гэтага часу дзяўчына верыла ў тое, што хлапец, хоча ён гэтага ці не хоча, бацькі яго згодны ці не, не зможа яе ўжо ніколі пакінуць ані здрадзіць ёй. У ваколіцах Гарадка і Ялоўкі бытуе перакананне, што не мусіць гэта быць кроў з першай менструацыі.

Зусім іншы спосаб захаваўся ў ваколіцы Бельска. Практыкуецца там дадаванне да стравы спаленых валасоў, вырваных з трох месц: галавы, з-пад пахі і ўзлоння, але вырваных так, каб з кожнага месца была аднолькавая колькасць. Наступным спосабам здабыцця ўтледжанага сабой хлапца і затрыманне яго як мужа было дапушчэнне да фізічнага збліжэння ў час менструацыі. Згодна з перакананнямі, хлопец тады пачынае траціць галаву і шалець за дзяўчынай.

Іншым спосабам, які бытуе па сённяшні дзень у ваколіцах Нарвы, з'яўляецца запісванне крэйдай на так званых зіевах (частка печы), або драўлянай абудове дуды свайго імя, спалучаючы яго крыжыкам з імем хлапца. Згодна з перакананнем мела гэта назаўсёды спалучыць іх у сям'ю. Праўда, гэты спосаб большасцю ўжо перайшоў да дзіцячай падкультуры, зменьваючы свой намер. Часта на плоце, на сценах ці школьных партах можна сустрэць прыкладна: Коля+Ірэна=Каханне. Не раз гэта набірае вульгарнага зместу. Прыклады філяцыі ад магічнага спосабу да гульні з'яўляюцца падтрымкай тэзіса аб жыццёвасці фальклору і зменах, якім ён паддаецца. Большасць спосабаў любоўнай магіі надалей засталася ў таемным крузе практык.

У канцы XIX і першай палавіне XX стагоддзяў назіраецца сільны паток латочнай літаратуры. Шматлікія публікацыі, хаця б вядомая: Alfiktor czyli Czarna i Brunatna Magia, якая знойдзена ў водпісах, сведчаць аб вялікім зацікаўленні гэтай тэмай. Часта назіраюцца сувязі любоўнай магіі з народным лячэннем і дэманалогіяй. Любоўная магія выйшла за рэквізіты, звязаныя з чалавекам і яго бытам, і стала толькі папяровым узорам для падрыхтоўвання старых верапераканнанняў у магічную сілу яднання людзей. З увагі на тое, што яднае яна, нягледзячы на будучыню і ўзаемнае шчасце гэтых людзей, а толькі дзеля таго, каб яднаць, каб насілу склеіць сям'ю, адносім яе да шкодніцкай магіі.

**Янка Леанчук,**
**Міхась Шаховіч**

## ПАДАРОЖЖА З МАГНІТАФОНАМ

Праз раскрытыя вокны ўліваецца цёплы ліпнёвы вечар. Пасля працавітага і плённага дня сядзяць яны вакол ссунутага са школьных парт стала, раячыся наконт планаў на заўтра. 15 пар вачэй пільна ўглядаецца ў разложаныя карты Беласточчыны. Яшчэ раз кожная група прыпамінае тэму сваіх доследаў і даследаваныя мясцовасці ды прымаецца за накрэсліванне новага маршруту, згодна з якім пойдуць заўтра ў раён. У катле закіпела вада, і на стале, дзе хвіліну таму назад ляжалі кнігі, сшыткі, разложаныя карты, паяўляюцца кубкі з гарачым чаем і бутэрбродамі. Вячэра. Нехта ўключыў магнітафон, і залу запоўніў расказ пра вясельныя абрады. На гэтым іх дзень закончыўся. Заўтра зноў чакае іх далёкае падарожжа ў гарачых промнях ліпнёвага сонца. Але спаць яшчэ не хочацца. Хтосьці пачаў песню і праз вокны школьнай залы паплыло, уліваючыся ў начное паветра, меладычнае гучанне.

Ужо другі год падрад дзейнічаючы пры польскай філалогіі філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку студэнцкі гурток фалькларыстаў, якім апякуецца навуковы працаўнік гэтай жа філалогіі Ян Леанчук, арганізуе такія паездкі. У бягучым годзе сваю цэнтр-базу памясцілі ў Нарве, а дакладней у памяшканні пачатковай школы, і вялі свае этнаграфічныя запісы ў былых Гайнаўскім і ўсходне-беластоцкім паветах. Згодна з зацікаўленнем і каб як мага больш зрабіць, падзяліліся на некалькі груп. Адны займаліся прыслоўямі, прымаўкамі ды прыказкамі, другія магіяй, іншыя магільнай паэзіяй, наступныя вясельнай абраднасцю, а дакладней арацыямі, а яшчэ іншыя тэкстамі герада і рознымі ў іх зменамі. У гадзін дзевяць база пусцела. Групы адна за адной пакідаюць школьны панадворак і разыходзяцца згодна з маршрутамі. Чакае іх далёкая дарога. Часам трэба прайсці звыш 30-ці кіламетраў. Ад вёскі да вёскі, дакладна распытваючы і запісваючы на магнітафонную стужку, робячы фатаграфіі. Найцяжэй навязаць і накіраваць размову на адпаведную дарогу. Людзі пачаткова здзіўляюцца, што некага там можа цікавіць іх спеў і абрады. Але пастурова вяртаюцца ў сваё мінулае і потым доўга-доўга і ахвотна расказваюць. І так у кожнай вёсцы. І толькі вечар зноў збярэ іх разам у школьнай зале для праслухання сабранага і параўнання з іншымі запісамі. З сабой маюць бібліятэчку. На хрыбтах пастаўленых у рад кніг віднеюцца прозвішчы: Федароўскі, Дваракоўскі, Кольберг, Машынскі. Сабраныя матэрыялы апрацоўваюць у форме рэфератаў, шырэйшых прац ці проста перадаюць для выкарыстання другім. Для некаторых гэта ніва будучых дыпломных работ. Так, прыкладна, у Альжбеты Драждж[э]віч, студэнткі чацвертага курса, якая занялася тэкстамі герада, ці Тадэвуша Вяжбіцкага, студэнта першага курса, які ўсур'ёз плануе заняцца прыслоўямі. Але найважнейшай рэччу з'яўляецца тое, што ратуюць яны скарб. Вылаўліваюць тое, чаго праз пару гадоў вылавіць нельга будзе.

**Міхась Шаховіч**
Фота Б. Тадус



**Удзельнікі фальклорнага лагера.**

## У СВЕЦЕ ЗАДУМЫ



— Чаму постаці ў маіх скульптурах такія сумныя, пытаецеся, — разбяр паволі адкладвае разец, страсае з полкі свайго фартуха стружкі, не спяшаецца з адказам. — Бачыце, у жыцці так ужо ёсць, што чалавек вясёлы, смяючыся, як правіла, не стварае ніякіх каштоўнасцей, гэта пустацвет, які не ведае мукаў тварэння. А чалавек задуменны — гэта творца, гэта той, хто сваёй думкай і працай уносіць свой канкрэтны ўклад у агульную скарбніцу. І я якраз намагаюся паказваць чалавека ў часе яго найвышэйшага творчага напружання. Вось таму і сумны ён у мяне выходзіць...

Народны разбяр **Люцыян Барута** з Драгічына — гэта фенамен у народным мастацтве. Нарадзіўся ён у 1929 годзе ў сям'і вясковага краўца ў вёсцы Дражнеў, што знаходзіцца на левым, „рускім“ як тут называюць, беразе Буга, каля Драгічына. Ні ў дзяцінстве, ні ў юнацтве не сустрэўся з народнай разьбой: у вёсцы былі людзі, што займаліся сталяркай, кавальствам, але не было разбяра. У сямікласнай школе, якую Л. Барута закончыў у сваёй вёсцы і на гэтым ужо спыніў сваю адукацыю, таксама ніхто не звяртаў асаблівай увагі на гэты від мастацтва. А потым была ўжо толькі праца ў Драгічыне і не знайшлося ні нагоды ні часу для навукі. Цэлыя дзесяцігоддзі, здавалася, мастацтва было па-за яго зацікаўленнем. Выбух наступіў, калі яму было ўжо каля сарака год. Нясмела, так сабе, на пробу, пачаў ён недзе ў 1970 г. рабіць гіпсавыя „фігуркі“. Адны з іх „выходзілі“ горш, другія лепш, але наогул гэты занятак прыносіў яму задавальненне. З таго часу, між іншым, паходзіць скульптура „Тадэуш Касцюшка на кані“, якую Л. Барута ахвяраваў Драгічыну, і яна па сённяшні дзень стаіць на высокім пастаменце ў цэнтры мястэчка. Але да гіпсу ўсё ж у творцы „ляжала сэрца“. Затое ўжо першыя працы ў дрэве яго цалкам захапілі.

— Спачатку ў мяне не было ніякіх прыладаў, вырэзваў я звычайным сцізорыкам, — кажа ён. — Але і тады ўжо адчуваў, што дрэва — гэта вельмі ўдзячны матэрыял для выказвання ў ім думак і настрояў. Таму што ў дрэве прамаўляе не толькі тое, што атрымоўваецца пад разцом, але і фактура драўніны, гэта значыць, яе колер, слаі, сучкі, нават трэшчыны. Працую я ў кожным дрэве, але найбольш люблю ліпу. Палюю на кожны яе камель па ўсіх навакольных сёлах.

І сапраўды, кожнаму, хто сустрэўся з працамі Л. Баруты, кідаюцца ў вочы адметныя асаблівасці яго разца: глыбокая, упэўненая рыса, амаль зацёс, натуральная форма і дакладнасць малюнка кожнага элемента постаці, выключная здольнасць пластычна адлюстроўваць чалавечы настрой, майстэрскае выкарыстанне ігры святла і ценю, уменне стварыць адпаведны фон. Гэтыя і шэраг іншых выдатных якасцей, уласцівых творам Л. Баруты, звярнулі ўвагу на іх любіцеляў народнага мастацтва, Цэпэліі, музеяў. Хоць тэматыка іх абмяжоўваецца да постацей з новага завета і гісторыі Польшчы, але ўсё, што выходзіць цяпер з-пад разца разбяра, адразу знаходзіць ахвотных яго набыць. У Торунскім этнаграфічным музеі знаходзіцца ўжо пяць прац, сярод іх: „Т. Касцюшка“, „Я Дамброўскі“. Музей сельскай гаспадаркі ў Цеханоўцы набыў „Ворыва“ і „Дрывасекі“, мноства прац купілі прыватныя збіральнікі народнага мастацтва. Вялікая кампазіцыя жаночых актаў, што гатовая стаіць у майстэрні мастака, будзе знаходзіцца ў фае новага будынка цэнтра здароўя ў Драгічыне. Працы Л. Баруты ўсё часцей трапляюць на выстаўку, спачатку з розных нагод у Драгічын і Сямяцічы, потым у Беласток, а нядаўна таксама і на агульнапольскі конкурс у Торуні.

— Але я працую не для славы і не для грошай, — заўважае мастак. — Вось гэты мой маленькі, скромненькі домік, мая майстэрня і самае неабходнае для жыцця мяне цалкам задавальняе. Найбольшая мая радасць — гэта рэзьбіць у спакоі. Ведаеце, адзін журналіст пасля пабыўкі ў мяне, так ужо расхваліў ды размаляваў маю творчасць, што мне аж сорамна было на вуліцу мястэчка выйсці...

Развітваўся я з ім і пакідаў майстэрню, заселеную светам задуменных постацей, запэўніваючы, што не зраблю так, як мой калега па пяру.

**Ігнат Снарскі**
Фота аўтара



**У заселенай скульптурамі майстэрні народнага разьбяра. У цэнтры кампазіцыя „Поры года“.**

Беларуская літаратура — Аляксандр Баршчэўскі

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

## МАКСІМ ГАРЭЦКІ — ЧАСТКА XXXV

**Сцэнічныя творы.** У цэнтры п'есы „Антон" знаходзіцца постаць Антона. Трэба падкрэсліць, што па сутнасці ў беларускай дакастрычніцкай літаратуры няма тыпу героя, падобнага на Антона, які адрозніваецца ад усіх іншых літаратурных тыпаў сваёй крайняй рэлігійнасцю. Праўда, у нашаніўскую пару было некалькі аўтараў, якія ў сваёй творчасці закраналі рэлігійныя праблемы, аднак бадай што ў ніводнага з іх не выступіла постаць настолькі прасякнутая рэлігійнымі ідэямі, як Антон.

Міжволі хочацца паставіць пытанне: адкуль у Антона, тыповага беларускага селяніна, занятага штодзённа гаспадаркай і сям'ёй, настолькі могуць быць галава і сэрца заняты рэлігійнымі ідэямі? У сувязі з пэўнай гіпербалічнасцю постаці Антона можна было б паставіць Гарэцкаму закід аб жыццёвай неверагоднасці яго героя. Аднак вядома, што яшчэ ў міжваенны перыяд, а таксама ў часы вайны ў беларускіх вёсках была пэўная колькасць „святых" людзей — крайніх містыкаў, асоб, прасякнутых рэлігійнай фразеалогіяй.

З тыпам паталагічным маем дачыненне таксама ў выпадку Антона. Крайні рэлігійны аскетызм не быў характэрны для беларускай масы ў апошніх стагоддзях. Напэўна Антон не быў тыповай з'явай для беларускай вёскі ў тыя часы, якія апісаў у сваёй п'есе Гарэцкі.

Антон зусім бескантрольны ў сваіх захапленнях ідэяй бога. Паводле яго чалавечае жыццё ў нейкай ступені не залежыць ад самога чалавека, а толькі ад волі вышэйшай сілы. Для Антона ўсё жыццё — гэта нішто іншае, як толькі працяглая паласа грэху. Грашыць пачынае дзіця, амаль што выходзячы з калыскі. Грашэнне спыняецца толькі разам з надыходам смерці. Паводле Антона, чалавек вінаваты і грэшны ўжо з той прычыны, што ён чалавек. Вось роздум Антона аб тым, што чакае ўсіх людзей.

„Антон задумаўся; думкі яго паляцелі туды, дзе жудасны Копша складае торпы касцятрупаў, а дзе калісьці рагатыя з бізунамі, хвастатыя, капытатыя на тонкіх ножках і са свінымі лычамі гоняць звязаных ланцугамі людзюхнаў у... агонь неўгасімы... Усе тут ёсць: і каралі, і царыцы, і міністры, і генералы, і губернатары, і паны, і папы, і жыды, і цыганы, і ўсякія другія народы, і мужыкі, і бабы, і маламожныя, і заможныя, і ўсякія-ўсякія. І тыя, што бацек не шанавалі, і тыя, што дзетак распусцілі, і тыя, што бога не баяліся, у сераду, у п'ятніцу мяса елі, дарма кляліся, з чужымі жонкамі распусту рабілі..."

Маем тут дачыненне з хворымі ўяўленнямі чалавека, якому здаецца, што ўсе магутныя, таямнічыя сілы свету скіраваны супраць яго і што толькі пакорнасць і пабожнасць могуць яго выратаваць.

Аднак ніхто не ў стане выратаваць чалавека, які губіць самога сябе псіхічна. Гісторыя Антона канчаецца трагічна. Антон выводзіць сваіх дзяцей у поле і там касой рэжа сына і самога сябе. Такі нечаканы фінал сведчыць аб тым, што Антон быў чалавекам ненармальным.

У такой сітуацыі досыць цяжка сур'ёзна трактаваць яго рэлігійнасць і дашукоўвацца ў ёй якой-колечы філасофіі. Была яна толькі праявай псіхічнай паталогіі.

З маёй званіцы

## „ДЗІКІ"

У свабодную суботу і нядзелю (6 і 7 жніўня г.г.) аб'ездзіў я крыху вёсак з падножжа Белавежскай пушчы і сустракаўся з многімі людзьмі. Гутарка наша не пачыналася ад хвалення ці гanення надвор'я. Адразу пасля прывітання людзі пыталі: „Што, па грыбы прыехаў? О, у нас іх сёлета было столькі, што хоць ты касой касі". І гутарка пра грыбы ўваходзіла ў азарт, людзі пачыналі спрачацца, дзе іх ёсць больш і хто больш назбіраў. Цётка Васіліса сядзела на лавачцы і слухала, як мужыкі спораць, а пасля сказала: „Людэ, чого віетэ спорытэ дэ буольш грыбуоў? Кобнэ тыі з Гайноўкі, з Былостоку і шчэ буог знае з куоль, то ў нас грыбуоў сушаных было б по мышкові, але што ж, як з усюоль прыізджают..."

— Грыбы то грыбы, — адазваўся незнаёмы мне чалавек, — але браткі тыя з горада за адным прыездам хочуць і дарэмна разбагацець. Яны акрамя грыбоў дзяруць нашу бульбу. „О так, праўду віетэ, дядьку, кажэтэ, — падхапіў малады гаспадар, — халеры жывут у міесты, заробляют дужо грошы, а ўсёруомно крадут, як бы ім було шчэ мало, а зганяют на дзікуў".

Многа людзей скардзілася на гараджан за крадзеж бульбы. Смяяліся, што інтэлігенты прыязджаюць „вучыць", як мужыку жыць. — Але мы красці не хочам, — гаварылі, — няхай толькі ў нас не крадуць. Ад дзікоў мы абаронімся, а ад чалавека горш, бо гэта ж разумная жывёліна.

Сапраўды жывёліна, калі, быццам свіння, лезе ў чужую бульбу і, навярыўшы, не сароміцца паставіць яе на стол, ды соваць у горла.

**В. Петручук**

# ЖЫЦЦЁ Ў ПУШЧЫ

(Працяг са стар. 1)

пакуль што закончыў пяты клас пачатковай школы.

— Дык што, Вальдэк, — звяртаюся да яго, — відавочна табе прыдзецца астацца на гаспадарцы?

— Не хочу! — рашуча і шчыра заяўляе хлапчук.

— А чаго яму тут аставацца, — гаворыць бацька. — Да нядаўна жыло нас на гэтым хутары аж чацвёра, усе Кананюкі. Астаўся я адзін. Мае суседзі ўцяклі ў Варшаву.

— А нас тут, пад гэтай пушчай, — уключылася гаспадыня, — лясная звярына ўжо на смерць заядае.

— Асабліва дзікі так нам ужо надакучылі, што жыць не хочацца.

— А іх тут, гэтых дзікоў, спецыяльна трымаюць для замежных паляўнічых.

— Рэкампенсата? Гэта слёзы — не рэкампенсата, што нам плоціць лясная адміністрацыя.

— І таму ваш сусед пакінуў мураваны дом і некуды ўцёк? — пытаюся.

— Не, гэта была тутэйшая леснічоўка. Жыў у ёй ляснічы Міхась Андрэюк — родам з Крыўца. Цяпер ён перабраўся ў вёску Рыбакі, дзе пабудаваў сабе ўласны дом, і гэтая леснічоўка стаіць пустая.

* * *

Добрыя гаспадары пачаставалі мяне духмяным мёдам і разам з добразычлівымі сялянамі дапамаглі нам вырвацца з Белавежскай пушчы.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара



**На ўскраіне Белавежскай пушчы стаіць пустая ляснічоўка.**

(Працяг са стар. 2)

Выдадзена дагэтуль 11 тамоў зводу ў 12 кнігах.

У 70-я гады значна ажывілася фальклярыстычная праца ў Беларускім дзяржаўным універсітэце імя У. І. Леніна. У штогодных фальклорных экспедыцыях удзельнічае каля 200 выкладчыкаў і студэнтаў філалагічнага факультэта. У выніку вялікай працы гэтых калектываў сабраны багаты матэрыял, на аснове якога выдадзены фальклорныя зборнікі пад рэдакцыяй Н. Гілевіча.

## З гісторыі беларускай фалькларыстыкі

У пасляваенныя гады значнае развіццё атрымала тэарэтычнае асэнсаванне беларускага фальклору, стварэнне гісторыі беларускай вусна-паэтычнай творчасці. Паявілася ўжо звыш дваццаці цікавых манаграфій беларускіх этнографаў, фалькларыстаў і лінгвістаў, у якіх даецца ўсебаковая характарыстыка розных жанраў беларускага фальклору.

А. Фядосік піша аб вялікай папулярнасці беларускіх фальклорных зборнікаў у СССР і за межамі краіны. Прыкладна, у Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы паявілася ўжо восьмае выданне зборніка беларускіх народных казак. У Народнай Польшчы апублікаваны ў перакладзе А. Баршчэўскага казкі са зборнікаў М. Федароўскага, а таксама празаічныя вусна-паэтычныя творы, сабраныя іншымі фалькларыстамі.

Цікавая праца А. Фядосіка дае ўяўленне чытачу, як многа зроблена ў галіне збору, навуковай апрацоўкі і публікацыі духоўных каштоўнасцей, створаных таленавітым беларускім народам на працягу мінулых стагоддзяў, а таксама ў савецкі перыяд.

**Віктар Швед**

## ЦІКАВАЯ ДУМКА

Улады Беластоцкага ваяводства з асаблівай увагай адносяцца да выгляду пасёлка Белавежа. Звярнуліся яны да беластоцкіх мастакоў і архітэктараў, каб тыя падалі свае прапановы, як яны бачылі б адну з важнейшых белавежскіх вуліц — вуліцу генерала Вашкевіча. І работнікі майстэрні выяўленчага мастацтва ў Беластоку падрыхтавалі такія праекты. Зараз яны разглядаюцца ўладамі Белавежы. Свае праекты запрапанавалі: Юры Лабаноўскі, Войцех Залэнскі і Анджэй Хвалібуг. Датычаць яны перш за ўсё каларыстыкі фасадаў знаходзячыхся там будынкаў, выгляду новых невялічкіх кіёскаў, платоў паабапал дарогі, шыльдаў на мясцовых установах, лавачак з дашкамі і без дашкоў для адпачынку, табліцы з прывітальнымі словамі да ўсіх прыезджых у Белавежу, а таксама шмат іншых дэкарацыйных элементаў. Усе гэтыя праекты цікавыя па задуме і рэальныя, і таму вартыя таго, каб іх як мага хутчэй рэалізаваць. Белавежа павінна мець свой мясцовы каларыт, прыцягваць наведвальнікаў, адкуль яны не былі б.

**(ця)**

(Працяг са стар. 1)

# Таварыства прыяцеляў Бельска

ны. Прыбылі таксама многія варшавяне і беластачане, што родам з Бельска. З'езд здзейсніў не толькі свае ўстаноўчыя функцыі — стварыў арганізацыю, выбраў праўленне, прыняў статут, вызначыў напрамкі дзеяння, — але таксама разбудзіў грамадскую ініцыятыву differentнабаковых дзеянняў на карысць горада і рэгіёна.

— Перш за ўсё мы мабілізавалі бельскую грамадскасць на правядзенне кожны год мерапрыемства, якое гуртуе ўсіх улюбёных у свой родны горад і рэгіён, дае ім магчымасць выявіць свае творчыя здольнасці і прыемна адпачыць, — расказвае старшыня таварыства інж. **Тадэуш Вільгат.** — Такім мерапрыемствам з'яўляюцца ў нас Дні Бельска. Упершыню мы іх арганізавалі ў 1976 годзе. Праходзілі яны тады хоць і не з вялікім размахам, але сустрэліся з зацікаўленнем грамадства. У бягучым годзе яны ператварыліся ўжо ў сапраўднае агульнагарадское свята з сотнямі выканаўцаў і тысячамі гледачоў, зацікавілі яны і малога і старога. Дні праходзілі ад 27 да 29 мая, а ў іх праграме былі: папулярна-навуковая сесія з цікавымі дакладамі па гісторыі Бельшчыны, канцэрт спевакоў з Варшавы, выступленні самадзейных калектываў, ліцэяна, агульнагарадскія спартыўныя спаборніцтвы школьнай моладзі, фальклорны, кніжны і іншыя кірмашы, інсцэніроўкі школьнікаў на гістарычныя тэмы на Замкавай гары, народныя гулянні і мноства іншых мерапрыемстваў. І ўсё гэта адбывалася ў атмасферы пашаны да даўніх традыцый і здабыткаў нашай сучаснасці. Спадзяемся, што ў наступных гадах Дні будуць яшчэ больш займальныя для іх удзельнікаў і гледачоў і карысныя для ўсяго горада, бо яны разбуджаюць грамадскія пачыны пры давядзенні да належнага стану ўсяго, што дагэтуль было недагледжана, насаджэнні дэкарацыйных кустоў і кветак, рамонце старых і пабудове новых спартыўных пляцовак, парадкаванні вуліц і панадворкаў. Проста, наш старажытны горад маладзее на некалькі стагоддзяў.



**Тыповы для мяшчанскага будаўніцтва XIX стагоддзя дом у Бельску.**

Другая не менш важная галіна ў дзейнасці таварыства — гэта яго клопаты аб захаванні старажытных помнікаў. Ёсць ужо вынікі. Уступна адрамантаваны другі паверх гарадской ратушы з XVIII стагоддзя, перададзены ў карыстанне таварыства. Яно заснавала ў ім Бельскі рэгіянальны музей. Дзякуючы захадам бяльшчан спецыялізаванае ў рамонце старажытных аб'ектаў прадпрыемства з Варшавы неўзабаве прыступае да рэканструкцыі і кансервацыі колішняга манастырскага ансамбля, а таксама гарадской ратушы. Адначасова



МАЙСТАР НА ЎСЕ РУКІ

## Зыгмунт Цеплы

Аб тым, што Зыгмунт Цеплы добры гаспадар у вёсцы Зялёнай, гміны Міхалова, усе ведаюць. Ведаюць і аб тым, што вучыўся ён мулярскаму рамяству і да яго як да спецыяліста многія звяртаюцца, каб пабудаваў ім такі ці іншы будынак.

Зыгмунта Цеплага ведаюць у вёсцы і ваколіцы і як самавука-мясніка. Гэтай прафесіі ён нідзе не вучыўся. Ён проста падглядзеў, як гэта робяць спецыялісты і сам стаў яшчэ лепшым спецыялістам ад іх. Калі ў наваколлі вяселле, ці хрысціны, яго просяць, каб падрыхтаваў смачныя каўбасы, шынкі, балероны, сальцэсоны, кашанку, так, каб мясных вырабаў хапіла на двухдзённае, а часам і трохдзённае вяселле. Часта арганізатар вяселля рэжа не менш як 150-кілаграмовага вепрука і 300-кілаграмовую цялушку і даручае яму мясную кулінарную справу. Тады Зыгмунт Цеплы вымушаны працаваць там некалькі дзён.

Тэкст і фота **М. Хмялеўскага**

## Сем месяцаў у белавежскім турызме

Да канца ліпеня Белавежу наведала звыш 77 тыс. чалавек. Лік вялікі, ды ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года на 4,5% меншы. Затое расце лік замежных турыстаў. Да канца ліпеня прыехала іх сюды каля 3,5 тыс., г.зн. аж на 11% больш, чым за сем першых месяцаў у 1976 г. З 25 дзяржаў — найбольш прадстаўнікоў СССР (33% агульнага ліку замежных прыезджых), ГДР (11%), ФРГ (9%), Югаславіі (4,5%), Швецыі (4,5%), Чэхаславакіі (4%), Аўстрыі (3,5%), Бельгіі (3,5%) і ЗША (3%).

Вынікае, што на першых месцах няма ніякіх змен. Ад шэрагу гадоў вядуць рускія, а за імі немцы і французы. Хаця ў выпадку немцаў, у першай палове г.г. налічылі іх у Белавежы толькі некалькі дзесяткаў. Варта таксама заўважыць, што няма ў першай „дзесятцы“ галандцаў і англічан. Слаба едуць у гэтым годзе чэхі. Затое павысіўся лік югаславаў, шведаў і аўстрыйцаў. Але сезон яшчэ не закончыўся.

Наведваючы нашу жамчужыну, як штогод, прапаноўваецца тое самае: 2 запаведнікі і музей. Глыбока спіць справа ўтварэння дыдактычна-навучальнага цэнтра для школьнай моладзі. Зацягваецца таксама рамонт палацовай брамы, у якой мае змяшчацца памяшканне для экскурсаводаў і турысцкі інфармацыйны пункт. У такім выглядзе, у якім ён цяпер існуе, доўга пратрываць не павінен. Паўбяды, калі прыдзецца скарыстацца белавежскай інфармацыяй краёваму турысту, бяда, калі хоча чаго-небудзь даведацца замежны турыст. Ці сапраўды найважнейшае турысцкае месца на Беласточчыне не можа даць працу чалавеку, які б валодаў замежнымі мовамі? Зараз жа ў Белавежу прыязджае кожны год звыш 5 тыс. замежных турыстаў. Цікава, што ў міжваенны перыяд, калі ў сярэднім прыязджала з заграніцы 400 чалавек у год, такі інфарматар быў. Ці не парадокс гэта?

Моцна крытыкуюць экскурсанты абеды ў рэстаране „Сарэнка“. Зрэшты, не толькі яны. Найбольш жа пахвалаў за смачныя абеды збірае рэстаран „Зуброўка“. Сярэдне смачна кормяць „Турыстычная“ і „Іва“.

Рушыла справа з будаваннем другога мосціка, спалучаючага берагі ракі Нараўкі. Мо ўрэшце будзе можна перайсці карацейшай дарогай са стаянкі аўтамабіляў да турысцкага цэнтра. Аднак раней трэба было б забяспечыць агароджай абеліск з 1752 г., які стаіць пры гэтай дарозе. Ён будзе падвержаны сур'ёзнейшаму псаванню турыстамі-вандаламі. Ужо цяпер, калі яшчэ стаіць на месцы, якое мала наведваюць турысты, мае сляды (драпіны, надпісы), якія пакінулі вандалы на памяць аб пабыўцы ў Белавежы.

Палепшылася намнога сітуацыя з экскурсаводамі. Першы раз ад шэрагу гадоў адмянілася чарговасць. Ужо не экскурсіі шукаюць экскурсаводаў, а экскурсаводы экскурсій. Выйгралі на гэтым і індывідуальныя турысты. Сабраўшыся ў некалькі чалавек, амаль у кожную хвіліну могуць наняць экскурсавода, які павядзе іх у запаведнік прыроды. Да гэтага часу, каб пайсці на такую экскурсію, вымушаны былі прасіць дазволу на далучэнне да груп, якім удалося атрымаць экскурсавода. Найманне экскурсавода індывідуальным турыстам было практычна немагчымым, хіба што пасля сезона. Так што новы экскурсаводчы курс урэшце вырашыў цяжкае становішча.

**Пётр Байко**

## ФАЛЬКЛОР

### СІРОЦКАЯ

Adagio

Ой, са-ма я, са-ма, як бы-лі-нонь-ка ў по — ю, ой, нэ — май нэ бу-дэ по-жа — ло-ва-ты ко-му. Ба-

*Ой, сама я, сама,*
*як быліонька ў полю,*
*ой, нэма й нэ будэ*
*пожаловаты кому.*
*Батэнька нэ маю,*
*матёнка старая,*
*братік на вуенці,*
*а сэструонка малая.*
*Ой, прыплынь, муой братіку,*
*прыплынь з водою,*
*возьмы мэнэ, возьмы*
*сіротоньку з собою.*
*— Ой, нашто я маю*
*з собою тэбэ браты —*
*обішчавсе пан Буог*
*лепшу доленьку даты.*
*— Ой, поколь жэ тая*
*ліепша доленька будэ,*
*напосылаютсе*
*сіротэнькою людэ.*

Ад Агаты Семянюк, год 90, вёска Бялкі гм. Мілейчыцы, запісаў у маі 1977 года Мікалай Гайдук. Нотная транскрыпцыя з магнітафоннай стужкі Людмілы Панько.

## Беларусіяна

### У юбілей Браніслава Тарашкевіча

У Інфармацыйным бюлетэні (№ 1 (45), 1977) Інстытута сацыялістычных краін Польскай акадэміі навук паявілася інфармацыя Малгажаты Мігдальскай „85 гадавіна нараджэння Браніслава Тарашкевіча“.

У інфармацыі сцвярджаецца, што 28 лютага 1977 года ў Інстытуце мовазнаўства імя Я. Коласа Акадэміі навук БССР у Мінску адбылося пасяджэнне Навуковага савета, прысвечанае 85 гадавіне з дня нараджэння дзеяча КПЗБ, перакладчыка і мовазнаўцы Б. Тарашкевіча.

Пасяджэнне адкрыў намеснік дырэктара інстытута А. Жураўскі, які пазнаёміў з біяграфіяй Тарашкевіча і прадставіў значэнне яго навуковых прац для беларускага мовазнаўства.

Аб жыцці і грамадска-палітычнай дзейнасці Тарашкевіча расказаў А. Ліс, навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору. Дацэнт Беларускага універсітэта імя У. І. Леніна, Антаніна Яновіч, прадставіла фундаментальнае значэнне працы Тарашкевіча „Беларуская граматыка для школ“, якая акрэсліла нормы беларускай літаратурнай мовы. Мікалай Арэхва, старэйшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ, былы член ЦК КПЗБ, падзяліўся з прысутнымі ўспамінамі аб размовах і сустрэчах з Тарашкевічам.

У заканчэнні сваёй інфармацыі М. Мігдальская сцвярджае, што таксама і ў Польшчы наглядаецца зацікаўленне асобай Тарашкевіча. У польскім друку паявілася некалькі артыкулаў (між іншым, у „Культуры“ і „Палітыцы“), а рэдакцыя гістарычнай літаратуры „Кніга і веды“ падрыхтавала да друку кніжку Аляксандры Бергман аб Браніславе Тарашкевічу, якая ў канцы бягучага года паявіцца на кніжным рынку.

**Віктар Швед**




*Вельмі здзівіліся члены прафсаюзнай рады аднаго будаўнічага прадпрыемства на Беласточчыне, калі нанеслі нечаканы візіт цяжка хвораму муляру. Хоць сустрэлі яго ў ложку, але ў свежа забалочаных гумавіках. Адбіваючы закіды, быццам бы хворы выкарыстоўваў бальнічны бюлетэнь дзеля халтуры, жонка муляра рашуча заявіла:*

*— Мужа страшна трасе, дык лекар сказаў, каб ногі былі ў цёплым!*

зроблены намаганні, каб рэстаўраваць і забяспечыць аб'екты колішняга мяшчанскага будаўніцтва.

— Цяпер увага ўсяго нашага таварыства, а яно гуртуе ўжо каля двухсот членаў, засяроджваецца на збіранні экспанатаў у наш рэгіянальны музей, — кажа Т. Вільгат. — Пакуль што ў ім знаходзіцца выстаўка прадметаў матэрыяльнай культуры Падляшша, якую арганізаваў Беластоцкі акруговы музей. Гэтая экспазіцыя служыць не толькі пазнавальным мэтам, але і паказвае наглядна наведвальнікам, што трэба шукаць, збіраць і перадаваць у наш музей. А мы хочам у ім сабраць у аддзеле гісторыі колішнія пісьмовыя дакументы, карты і планы, гербы і пячаці, даўнія здымкі горада і навакольных вёсак, матэрыялы па гісторыі рэвалюцыйнага руху на Бельшчыне, аб трагічных падзеях апошняй вайны і змаганнях за ўстанаўленне народнай улады; у аддзеле мастацтва павінны знайсціся тканіны, рукадзелле, разьба, народная вопратка, творы жывапісу; у аддзеле матэрыяльнай культуры — посуд, сельскагаспадарчыя і рамесніцкія прылады і г.д. Прозвішча кожнага ахвяравальніка будзе памешчана ў музеі каля экспаната і ўпісана ў Памятную кнігу. Найважнейшае ж — ён будзе адным са стваральнікаў музея. А мы хочам, каб музей стаў захавальнікам скарбаў гісторыі і культуры Бельскай зямлі і адначасова быў звяном, аб'ядноўваючым колішняе багатае мінулае Бельшчыны з яе сённяшнім днём, з дынамічным развіццём пры народнай уладзе. Гэтую ідэю мы выказалі ў спецыяльнай адозве-лістоўцы, якую цяпер распаўсюджваем. І ёсць ужо вынікі — у нашых зборах маем ужо каля сотні экспанатаў. У павелічэнні іх колькасці разлічваем на дапамогу перш за ўсё настаўнікаў і школьнай моладзі. Спадзяемся, што будзе не мала ахвотных да ўдзелу ў гэтым патрыятычным пачыне.

Таварыства прыяцеляў Бельска карыстаецца заслужанай падтрымкай і рознабаковай дапамогай з боку гарадскога камітэта ПАРП, упраўлення горада, іншых грамадскіх і маладзёжных арганізацый, розных прадпрыемстваў і ўстаноў. Гуртуецца ў ім і дзелавіты актыў, як **Я. Даманскі, Я. Ваўжыняк, С. Трафімюк, Т. Мілер, Г. Касярадскі, С. Януцкі, З. Шаховіч** і іншыя. Цяпер варта, каб гэтая арганізацыя абсягам сваёй дзейнасці ахапіла большую колькасць жыхароў горада і яго наваколля, знайшло сваіх саюзнікаў у гуртках Беларускага грамадска-культурнага таварыства, колах вясковых гаспадынь, бо гэта гарантуе яму далейшае развіццё. Здаецца, што ўжо настаў час падумаць аб вызначэнні на Бельшчыне цікавых маршрутаў для пешых турыстаў, экскурсій на веласіпедах і аўтамашынах, з асаблівым піетызмам трэба ажыццяўляць ахову помнікаў прыроды і прыроднага асяроддзя. Напэўна вялікую каштоўнасць для даследчыкаў і звычайных турыстаў меў бы арганізаваны ў Бельскім рэгіянальным музеі архіў магнітафонных плёнак з запісамі арыгінальнай вуснай народнай творчасці — песень, легенд, казак, жартаў.

Беручы пад увагу дасягненні Таварыства прыяцеляў Бельска і запал, з якім яно дзейнічае, гэтыя і шмат іншых добрых спраў яно ажыццявіць.

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара



Сучаснае жыллёвае будаўніцтва ў Бельску.

ИРИНА ПОНАРОВСКАЯ



**ФОТА ПА ЗАКАЗУ** Заказвала Валянціна Камарова з Клейнік.



## Кансультацыя юрыста



ПЫТАННЕ: Гаспадарка з'яўляецца ўласнасцю жонкі, якой 57 год. Мужу яе споўнілася 65 год. Яна хацела б аддаць гаспадарку дзяржаве за пенсію. Ці калі муж, які ўжо ва ўзросце пенсіянера, не з'яўляецца ўласнікам гаспадаркі, а жонка, якая з'яўляецца ўласнікам, не мае ўзросту пенсіянера, то можна аддаць гаспадарку дзяржаве за пенсію? У іх ёсць дарослы сын, які дапамагае ў гаспадарцы, але намеран выехаць на дзяржаўную работу.

АДКАЗ: Па згодзе жонкі, якой не споўнілася 60 год і яна не з'яўляецца інвалідам I або II групы, муж, які мае ўзрост пенсіянера, а не з'яўляецца ўласнікам гаспадаркі, можа патрабаваць пераняцця гаспадаркі дзяржавай за пенсію. Гэта пенсія будзе прыслугоўваць не толькі мужу, але і жонцы, хоць не мае яна яшчэ ўзросту пенсіянера. Згода мужа або жонкі на перадачу гаспадаркі дзяржаве незалежна ад таго, ці з'яўляюцца яны супольнымі ўласнікамі гаспадаркі, ці гаспадарка з'яўляецца ўласнасцю толькі аднаго з іх, але толькі ва ўмовах, калі муж або жонка працуе на гэтай гаспадарцы і праца гэта з'яўляецца галоўнай крыніцай іх утрымання. У нашым прыкладзе патрэбна будзе таксама згода сына, пакуль той працуе на гаспадарцы і ўтрымоўваецца з гаспадаркі. Галоўную ролю ў гэтых выпадках адыгрывае не права ўласнасці, а тое, ці муж, жонка або сын працуюць на гаспадарцы і ці гэта з'яўляецца іх галоўнай крыніцай утрымання. Таму муж мог бы перадаць гаспадарку дзяржаве за пенсію нават без згоды жонкі, калі б не працавала яна на гаспадарцы і гаспадарка не з'яўлялася галоўнай крыніцай яе ўтрымання, хоць гаспадарка была яе выключнай уласнасцю.

## Куток практычных ведаў




# Што з памідораў на зіму

Пры падрыхтоўцы запасаў на зіму трэба памятаць, што кансерві́раваныя памідоры будуць трывалыя і вартасныя, калі будуць зроблены са спелых, але адначасова цвёрдых памідораў без ніякіх плямак і пашкоджанняў. Найменш працы вымагае памідорны перацёр або цэлыя памідоры ў перацёры, якія неабходна пастэрызаваць. Трываласць кансерві́раваных памідораў будзе залежаць не толькі ад якасці памідораў, але і ад правільнага кансерві́равання, а перш за ўсё ад чысціні посуду. Чым больш дакладна памыем, тым лепшы атрымаем прадукт.

### ПАМІДОРНЫ ПЕРАЦЁР

Спелыя, здаровыя памідоры дакладна памыць, а пасля, дадаўшы крыху вады, разварыць у эмаліраванай каструльцы. Развараныя памідоры гарачымі адразу працерці праз сіта (найлепш праз нейлонавае). Атрыманы перацёр зліваць у памытыя слоікі ці бутэлькі, закрываць іх і, пакуль перацёр яшчэ гарачы, устаўляць для пастэрызацыі ў ваду, якая мае тэмпературу перацёра. Паўлітровы посуд трэба паварыць каля 20 мінут. Падрыхтаваны такім спосабам перацёр можна выкарыстаць не толькі для падрыхтоўкі супу ці памідорнага соусу, але і ў розных напітках (напрыклад, з малаком ці сыроваткай).

### ПАМІДОРЫ Ў ПЕРАЦЁРЫ

Малыя спелыя памідоры або большыя, перарэзаныя на чвэрткі, палажыць у слоікі-вэкі. Можна з памідораў зняць скурку. З гэтай мэтай памідоры трэба заліць кіпенем, а пасля паліць халоднай вадой. Зложаныя ў слоікі памідоры заліць гарачым перацёрам, слоікі закрыць і ўставіць у ваду для пастэрызацыі. Перацёр, якім залі́ваем памідоры, можна заправіць па смаку соллю і сокам ці перацёрам з селераў. Літровыя слоікі пастэрызаваць мінут 25. Памідоры ў перацёры зімою смакуюць, як свежыя, перацёр можна піць, але можна выкарыстаць яго для супу ці соусу.

### ЯБЛЫКІ (АНТОНАЎКІ) Ў ПАМІДОРНЫМ ПЕРАЦЁРЫ

Са спелых памідораў падрыхтаваць перацёр, заправіць яго соллю, перцам, цукрам. Антонаўкі тоненька абабраць, парэзаць на чвэрткі, выняць семечкі. Абабраныя ўжо яблыкі трымаць у вадзе з воцатам, каб не пацямнелі. Калі ўжо будуць абабраны ўсе яблыкі, выкладзіць іх на сіта і паліць кіпенем. Палажыць яблыкі ў слоікі, заліць гарачым перацёрам, слоікі закрыць і ўставіць у ваду для пастэрызацыі. Вельмі смакуе гэта з мясам.

**Гаспадыня**

## Сардэчныя тайны

Дарагія чытачы! Сёння друкуем пісьмо нашага земляка, які зараз жыве ва Уроцлаве, а дзіцячыя і юнацкія яго гады прайшлі тут, на Беласточчыне. Але гэтае дзяцінства і юнацтва яго было вельмі цяжкае, паралізаванае хваробай. І хаця ён вылечыўся з хваробы, сляды яе аднак зусім не зацерліся. Мо, прачытаўшы гэты ліст, знойдуцца ахвотныя напісаць да сябра. Мы маем яго адрас. Прысылайце тады пісьмы да нас, у рэдакцыю, а мы іх вышлем яму. А вось і яго словы: „Нарадзіўся я на Беласточчыне. Там прайшло і маё дзяцінства. Было яно сумнае, а за ім і цэлае маё жыццё. Двухгадовым хлопчыкам я захварэў на хваробу пазваночніка і хварэў да 17 года. Вылечыўся я з яе беспаваротна, але пазваночнік скрыўлены, хвароба след аставіла. Закончыў я тэхнікум, самахадовы курс. Спяваю ў хоры. Толькі да дзяўчат шчасця не маю. Хацеў бы ўжо ажаніцца, мне ўжо 32 гады, але не ўдаецца мне гэта. Хацеў бы я ажаніцца з дзяўчынай-беларускай, такой, як і я. А ў маіх старонках іх вельмі мала. Прашу вас вельмі, памажыце мне. Надрукуйце ліст, мо знойдуцца дзяўчаты, ахвотныя напісаць мне. Буду вельмі вам удзячны. З нецярплівасцю буду чакаць вестак.

В. С.".

## Вер-не-вер

Астроне, прысніўся мне сон, і я баюся, што прадвяшчае ён нешта дрэннае. Сніцца, што ўзяла я анучу і іду мыць царкву. Але не ўвайшла я ў царкву, бо якраз людзі з яе выходзілі. І я ішла перад гэтымі людзьмі і мыла перад імі дарогу.

Аня

Астроне, мая дачка ўжо замужняя. А мне прыснілася, што яна выходзіць замуж, ды за свайго мужа. Адбываецца вяселле, сабралася многа людзей. Гляджу я на яе і захапляюся яе валасамі. Яны намнога яснейшыя, чым у сапраўднасці і доўгія аж да пояса.

Марыся

Сніцца, што іду я з жонкай і нейкім знаёмым па рыштаванні, зробленым пры царкве. Унізе вада. І нам трэба спрытна саскочыць з рыштавання, каб не ўпасці ў ваду. Саскочыў я і знаёмы, а жонка, здавалася, што ўжо пераскочыць, але на жаль упала ў гэту ваду. І нырнула глыбока. Але вада была вельмі празрыстая, чыстая. Я падаў ёй руку, і яна выйшла з вады.

Сцяпан

**Аня!** Чакае вас нейкая аднова, а са смутку (царква), які праследаваў вас, вынікне нейкі поспех.

**Марыся!** Ваша дачка з некім пасварыцца (бадай з мужам). Яе прыгожыя валасы, аднак, дазваляюць меркаваць, што знойдзе ў сабе сілы, каб выйсці з гэтай сваркі пераможна.

**Сцяпан!** І ваш сон нейкі падобны. Будзе пагражаць небяспека, але ўсё міне (жонка хаця і ўпала ў ваду, але вада была празрыстая, чыстая, ды, зрэшты, жонка з вады вылезла).

**Астрон**

## Этнаграфічнае акенца



**„Перапёлка" каля вёскі Навасёлкі гм. Мілейчыцы. У сярэдзіне яе на выпалатай зямлі пакладзен камень-плітняк, на ім разасланы кавалачак палатна, а на палатне пакладзен акрайчык хлеба.**

**Фота М. Гайдука.**




Успамінаючы Іванаўку, Нікольскі думаў: „Заўтра ж дам тэлеграму, каб вярталіся".

Аднак выклікаць жонку і дзяцей ён не паспеў. Раніцай трывожны званок сарваў маёра з канапы. Дзяжурны крыкнуў па тэлефоне адно слова:

— Вайна!

— Пачалося! — прашаптаў Нікольскі і, зацягваючы рамень, пабег да дзяжурнага.

Спачатку, працуючы круглыя суткі, Нікольскі знаходзіўся ў стане пастаяннага чакання. Ён быў упэўнены, што дзяцей яго эвакуіравалі ў тыл і вось-вось сям'я вернецца дамоў. Але час ішоў, надыходзіла восень, германскія войскі рваліся да Масквы, надзея на вяртанне сям'і пачала знікаць.

„Не толькі ў мяне няшчасце. Магчыма, не змаглі мае эвакуіравацца і засталіся ў бабулі. Як-небудзь пражывуць", — суцяшаў ён сябе.

Нікольскі суткамі не выходзіў з памяшкання і, хоць дом яго быў недалёка, бываў там рэдка. Гаспадыняй кватэры стала цётка жонкі, Яніна, — тоўстая, слязлівая старая, якая прыехала з Іванаўкі перад самай вайной „пахадзіць па маскоўскіх урачах". Пачалася вайна, паехаць да сябе Яніна не змагла, пра свае хваробы яна неяк забыла, уладкавалася працаваць прыбіральшчыцай у хлебны магазін. Нікольскі недалюбліваў старую, але быў задаволены, што хтосьці ёсць у кватэры. Кожны дзень ён званіў дамоў і кожны раз чуў адно і тое ж: „Алеся, Наташа і Вовік не прыехалі..."

### „ГОСЦЬ" З-ЗА ЛІНІІ ФРОНТУ

Зімой вораг быў адкінуты ад сталіцы.

Набліжалася вясна. Маразы аслабелі. У адзін з вечароў Нікольскі адчуў сябе незвычайна стомленым. Прылёг на канапу. Заснуў. Але спаў не доўга. Прачнуўся з крыкам, у халодным поце. Яму прыснілася рэчка, вір. Воўка боўтаецца ў вадзе, кліча на дапамогу: „Тата! Тата!". Але бацька чамусьці не можа крануцца з месца. Здаецца, ніколі Нікольскі не адчуваў сябе такім разбітым і аслабелым.

Нікольскі ўстаў, падышоў да стала, набраў свой кватэрны нумар. Яніна доўга не адказвала, потым чамусьці прашаптала:

— Не, не прыехалі! — і паклала трубку.

— Ды што з ёю? — устрывожыўся Нікольскі.

Ён апрануўся і выйшаў на вуліцу. Вось і дом. Усюды цёмна, светамаскіроўка. Асцярожна падняўся на пяты паверх. Сваім ключом адамкнуў дзверы і ўвайшоў у кватэру. Раптам у спальні хтосьці заварушыўся, пачулася цяжкае, частае дыханне.

Маёр дастаў з кабуры пісталет і рэзка спытаў:

— Хто тут?

З кухні ў спальню шмыгнула Яніна. Чутна было, як яна зашыпела на некага:

— Што ты! Што ты! Гэта ж Васіль Іванавіч, гаспадар.

Яніна зацягнула фіранкі на вокнах, доўга чыркала запалкамі, нарэшце, запаліла лямпу і паставіла яе на піяніна. Слабае святло вырвала з цемры частку кватэры, якая гаспадару стала за гэтыя месяцы незнаёмай і нават чужой. Са спальні выйшаў мужчына, маленькі, худы, ледзь згорблены. Састроіўшы тонкімі вуснамі ўсмешку, ён нізка пакланіўся і мякка, нараспеў вымавіў:

— Добры дзень! Прабачце за турботы, гаспадар!

Нікольскі пачаў разглядаць госця і ўбачыў на яго шчацэ шрам.

„Казімір? — апякла думка. — Як ён тут апынуўся? Чаго?"

Госць заўважыў перамену настрою гаспадара і ціха спытаў:

— Прызналі?

Нікольскі кіўнуў. Настала няёмкае маўчанне. Але тут пачала завіхацца Яніна. Яна паставіла на стол гарэлку, закуску і запрасіла вячэраць. Моўчкі селі за стол. Выпілі, але размова не атрымлівалася. Нарэшце, маёр, гледзячы ва ўпор на Казіміра, прама спытаў, як ён сюды трапіў.

Госць, не ўзнімаючы вачэй, няпэўна адказаў:

— Прыехаў здалёк, па важнай справе.

Ён міргнуў Яніне. Старая замітусілася, накінула на сябе паліто і, узяўшы вядро са смеццем, выйшла з кватэры.

„Што ж усё гэта значыць? — трывожна падумаў маёр. — Трэба было б яго затрымаць. Напэўна, узброены..."

Нікольскі сунуў руку ў кішэню. Халаднаваты метал пісталета крыху супакоіў. Казімір улавіў рух яго рукі, усміхнуўся. Падышоў да століка, разгарнуў сямейны альбом і, разглядаючы фотакарткі, сказаў:

— Я прыехаў паведаміць, што ваша сям'я жывая і здаровая...

